# БЕЛАРУС

Выдае Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне у ЗША
Published by Byelorussian - American Association, Inc.
Address — Адрыс: Byelorussian-American Association, Inc.
405 Belmont Avenue, Brooklyn 7, N. Y., U. S. A.
Падпіска на год $ 2.50 — Subscription per year — $ 2.50
Рэдагуе Рэдакцыйная Калегія

PRICE 10 ¢ ЧАСАПІС БЕЛАРУСАУ У З. Г. А. BYELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE USA 10 ЦЭНТАЎ

Год III. № 5 (11) 29 Чырвеня 1952 г. NEW YORK, N. Y., U. S .A. June 29, 1952 Vol. III. № 5 (11)


## Палітычныя падзеі у сьвеце

### ХМАРЫ ХАЛОДНАЙ ВАЙНЫ ГУСЬЦЕЮЦЬ

### КАРЭЯ

Тут гутараць аб замірэньні далей. Трэба дзівіцца цярплівасьці шэфа амэрыканскае дэлегацыі ген. Хэррысона, які прымушаны выслухоўваць грубую лаянку шэфа камуністычнае дэлегацыі ген. Ір Нама па адрасу ЗША. Апошнімі днямі ген. Хэрысон сказаў камуністым: „Мы думаем аб тым, ці нам наагул варта вяртацца на гэткія паседжаньні”.

Тымчасам, паводля думкі ваенных спэцыялістых, камуністыя ўжо нагэтулькі ўзмоцнілі сваю армію, што трэба спадзявацца неўзабаве новых вялікіх баёў у Карэі. Галоўнакамандуючы саюзнымі вайскамі ген. Кларк заявіў, што й гэты новы наступ бальшавікоў скончыцца як і папярэднія — разгромам. Гэтую ягоную думку пацьвердзіў ангельскі фельдмаршал Алекзэндэр, які толькі што адведаў фронт у Карэі. Прадстаўніком прэсы ён заявіў: „калі камуністыя пачнуць новы наступ, яны панясуць вялізарныя страты, але не патрапяць прарваць саюзны фронт.

У сувязі з гэтым магчымым наступам бальшавікоў ізноў устае іншае, нязвычайна важнае, пытаньне магчымасьці бамбардыроўкі бальшавіцкіх базаў у Кітаі. Тут ген. Кларк падзяляе думку Мэк Артура, з той хіба толькі розьніцай, што такая бамбардыроўка станецца неабходнай у выпадку, калі бальшавікі кінуць на фронт разам з танкамі таксама свае самалёты. Да гэтага часу над франтавымі лініямі іх ня было. А ня было іх таму, што імі кіравалі савецкія пілёты, якія не хацелі, трапіўшы ў палон, выявіць хлусьню аб сваім „нэўтралітэце”. Тымчасам і шэф амэрыканскае авіяцыі ген. Спац заявіў, што наступ саюзных войскаў без адначаснага бамбардаваньня базаў у Манджурыі, быў-бы вар’яцтвам.

### НЯМЕЧЧЫНА

Гэтая краіна цесна зьвязаная й далей з Карэяй, бо камуністычныя нямецкія марыянэткі Крамля й далей пагражаюць паўтарэньнем яе ў Эўропе. І палажэньне ў Нямеччыне стаецца ўсё больш трывожным. Масава высяляецца ўсё жыхарства з шырокае савецкае прымежнае паласы ад Балтыцкага мора аж да Чэхаславаччыны. Высяляюць людзей паводле добра нам вядомых спосабаў, дык ў гэтай паласе выбухнуў шэраг сялянскіх паўстаньняў. Азброеныя сярпамі, косамі, віламі, сякерамі ды проста кіямі сяляне паставілі моцны супраціў нямецкай „народнай” паліцыі. У некаторых мясцовасьцях паліцыя перайшла на бок паўстаўшых. Лік уцекачоў нязвычайна павялічыўся. Урад Гротэволя выдаў адозву, у якой выясьняе трывожны настрой у краіне дзейнасьцю „амэрыканскіх імпэрыялістычных агентаў”.

Пачаўшы ўсю гэтую ваенную гістэрыю ў Усходняй Нямеччыне сваімі мабалізацыямі, вывазам жыхарства, масавымі арыштамі навет сярод камуністычнае партыі, бальшавікі не маглі не стварыць трывожнага палажэньня перадусім у сябе ўдома. Уся гэтая акцыя бальшавікоў разьлічаная на запалоханьне немцаў у Заходняй Нямеччыне, а таксама жыхароў Францыі з мэтамі перашкодзіць ратыфікацыі дагавораў дэмакратычнай Нямеччыны з саюзнымі дзяржавамі. Але тымчасам яны напалохалі толькі жыхарства сваёй зоны ды выклікалі злабу й нянавісьць да сябе як з боку бальшыні немцаў, так і французаў, памагаючы гэтым Ураду Пінэ ў

### ФРАНЦЫІ

лягчэй ліквідаваць падрыўную работу камуністых у гэтай краіне. Тут камуністычны правадыр Дюкло зьвярнуўся з пратэстам супраць свайго арышту ў Вярхоўны суд, але ягоны пратэст быў адкінуты.

Тымчасам Урад рыхтуецца да ўнясеньня законапраекту аб забароне камуністым ды іх сымпатыкам служыць у арміі й быць урадаўцамі ня толькі ў урадавых установах, але і ў самаўрадах, а нават у адказных галінах прамысловасьці. Праводзяцца далейшыя арышты камуністых. У часе гэтых арыштаў, у камуністых знойдзены вялікія запасы зброі і шмат розных важных дакумантаў, як пляны партоў, умацаваньняў сакрэтныя распараджаньні Ураду і г. д., што выразна гаворыць аб іхнай шпіёнскай дзейнасьці.

### ШВЭЦЫЯ

Як ведама, гэтая сацыялістычная краіна ніяк не хацела й ня хоча прыступіць да блёку Скандынаўскіх дзяржаваў, а таксама да Атлянтыцкага блёку, каб барані Божа не разгнявіць бальшавікоў. Швэдзцкія сацыялістыя праз увесь час зачынялі вочы на бальшавіцкі лёзунг: „хто ня з намі, той супраць нас”. І вось сталася. Савецкія МІГі ўжо раней зьбілі швэцкі самалёт над нэўтральнымі водамі Балтыцкага мора. Калі-ж іншы самалёт „Каталянія” выляцеў у пошуках за ім, бальшавікі зьнішчылі й яго. Самалёт „Каталянія” ня меў ніякае зброі і адзінаю мэтаю яго было знайсьці сьлед тых, што загінулі. Тымчасам на ноту швэцкага Ураду, Вышынскі адказаў сваей контрнотай, у якой абвінавачвае Швэцыю, быццам яна дазваляе сваім самалётам лятаць над водамі Савецкага Саюзу, ды яшчэ страляць (!) па савецкіх самалётах.

Гэтая хлусьня так абурыла швэцкае грамадзянства, што яно ўжо колькі разоў прабавала атакаваць савецкае пасольства ў Стакгольме і толькі вялікія аддзелы паліцыі ўратавалі гэтае пасольства ад разгневаных швэдаў. Урад-жа загадаў усім сваім самалётам азброіцца ды страляць пры далейшых гэткіх бальшавіцкіх правакацыях. Гэты самы загад выдаў ужо й Урад ДАНІІ для сваіх самалётаў.

Мала гэтага, Урад „нэўтралітэту” Швэцыі мае яшчэ й іншы клопат. Тут была выкрытая вялікая шпіёнская арганізацыя бальшавікоў, з якою цесна супрацоўнічалі сябры савецкага пасольства. Усе шпікі, сябры камуністычнае партыі Швэцыі, прызналіся, што яны маніліся ўзарваць фарты на поўначы краіны, там, дзе саветы плянуюць першы ўдэр па Швэцыі. Гэтыя прызнаньні ды дакуманты мусіць былі дастаткова пераканальныя, бо ўжо колькі савецкіх „дыпляматаў” пакінулі Швэцыю. І цікава, што будзе далей рабіць Швэцыя із сваім „нэўтралітэтам”?

### ІТАЛІЯ

Італьянскія камуністыя спачатку пагражалі гэткімі-ж „вялікімі” дэманстрацыямі ў сувязі з прыездам да іх ген. Рыджвэя, як і французкія. Тольяцці навет быў выслаў ім тэлеграму, у якой абацяў правесьці „акцыі” і ў Італіі. Тымчасам Рыджвэй прыехаў у Італію ды выступіў з прамоваю ў парлямэнце, а аб „акцыях” Тольяцці ані слыху!

Таму Тольяцці вырашыў, што ўсё-ж лепш застацца й далей у парлямэнце, адно заявіўшы: „На будучым Нюрнбэргскім працэсе мы пакажам, як вялася вайна ў Карэі”. На гэтае дэ Гаспэры адказаў: „Вы мяне не запалохаеце такімі прамовамі. Ня ведаю, хто будзе абвінавачаным на будучым Нюрнбэргскім працэсе. Вы можаце пратэставаць колькі хочаце супраць мерапрыемстваў нашае паліцыі для захаваньня парадку, колькі хочаце крычэць ды лямантаваць. У адным толькі праве мы вам адмовім у будучыні — у праве рабіць рэвалюцыі”.

С. К.

# У 10-тыя угодкі трагічнае сьмерці ЯНКІ КУПАЛЫ

1942  1952

### БУДЗЬ СЬМЕЛЫМ!

Будзь сьмелым! Магутна ярмо друзгачы!
Ідзі сам наперад, другіх вядучы!

Будзь сьмелым! Ня вер у людзкую брахню,
Вер толькі ў адвагу і сілу сваю

Будзь сьмелым, хоць путалі-б злыдні укруг —
Адважным ваякам ня страшны ланцуг!

Будзь сьмелым, як вецер, як воля сама!
Знай, сьмелых ня возьме ні крыўда, ні цьма!

Будзь сьмелым, як бура, што крышыць дубы,
А будзе твой верх, твая праўда ўсягды!

# Нарэшце

26 чырвеня мінулі другія ўгодкі ад пачатку вайны ў Карэі. Праўда, апошні год сапраўднай вайны блізу ня было, затое дзень у дзень вяліся безнадзейныя мірныя перамовы ў Панмуджоне, дзе чырвоная дэлегацыя даўгі час як хацела зьдзекавалася над цярплівымі саюзнымі генэраламі. У тым самым часе камуністыя гаручкова, карыстаючыся супакоем на фроньце, будавалі па ўсёй мяжы ўмацаваньні, аэрадромы, падвозілі войскі, зброю, адным словам — не гулялі.

І палажэньне Задзіночаных Нацыяў з Амэрыканцамі на чале пачало рабіцца не на жарты пагрозлівым. Аднак, наўсуперак усім спадзяваньням, мяккасьць і рахманасьць задзіночаных кіраўнікоў у дачыненьні да чырвоных партнэраў была толькі да пары, бо колькі дзен перад невясёлымі ўгодкамі Карэйскае вайны, амэрыканскія генэралы пачалі гутарыць з камуністымі крыху паіншаму, а амэрыканскія самалёты наважылі зрабіць найбольшы ў гісторыі гэтае вайны зьнішчальны налёт на прастору ворага. 500 самалётаў ваеннага лятунства атакавалі кагадзе пяць буйнейшых электроўняў у Паўночнай Карэі, на самай мяжы із Манджурыяй, зьнішчыўшы каля 90 проц. моцы паўночна-карэйскае электрычнае энергіі. Напад самалётаў працягнуўся больш гадзіны. Узарваная й гарыць чацьвертая па вялічыні ў сьвеце электра-станцыя Суйхо, на рацэ Ялу. Станцыя гэтая была пабудаваная ў часе Другое Сусьветнае вайны і давала электрычную энергію ня толькі для Карэі, але й для Манджурыі.

Назаўтрае цяжкія самалёты Амэрыканскага Корпусу Лятунства ізноў збамбардавалі чатыры паўночна-карэйскія электроўні, бо электроўня ў Суйхо, пятая па ліку ўсьцяж гарыць зыркім полымем і „папраўляць” яго ўжо няма патрэбы. Гэта быў яшчэ большы налёт, чымся папярэдні.

Абодвы бамбардаваньні былі як бы адплатай за немагчымае ў сваёй нахабнасьці стаўленьне чырвонае дэлегацыі, на чале з камуністычным генэралам Ір-Намам, да перамоваў у Панмунджоне.

## Прарок беларускай зямлі

Дзесяць гадоў таму на бруку бальшавіцкай Масквы трагічна кончыў свой цярністы жыцьцёвы шлях найбольшы пясьняр беларускай зямлі — **Янка Купала.** Адыйшоў тады ў вечнасьць волат беларускага слова й духа, пясьняр і прарок, — „цар і слуга” свайго народу.

Радзіўся ён 70 гадоў таму на Яна Купалу, на Купальле, ды закрасаваў яркаю кветкаю папараці ў Беларусі ў самую глыбокую цемень-ноч ейнага бытаваньня. Была гэта пара, калі „народ забыты таго краю свайго на’т імяні ня знаў.” Толькі раскіданыя курганы, толькі старавечныя замчышчы й руіны, былі нямымі сьветкамі „простым”, „тутэйшым” жыхаром накшых мінулых дзён гэтай „забытай Богам і людзмі краіны”.

Вось у гэтае безпрасьвецьце ў сэрцы Беларусі, у Меншчыне, пад убогаю саламянаю страхою, родзіцца будучы пясьняр-прарок Беларусі, які пазьней сваім магутным словам скалыхнуў і забыты, забраны край, і закінуты народ да новага творчага жыцьця й чыну.

Шчырыя, простыя пачатныя словы-песьні сялянскага хлапчука Янкі хутка, з гадамі, растуць і дужэюць, іхняя агністая бунтарная думка сягае ўсё далей і далей, за межы вёскі, аколіцы, аж магутнее, звонам-поклічам гудзіць, коціцца як гром за кругазор, ад краю да краю па ўсёй беларускай зямлі.

Янка Купала сваім сэрцам падслухаў ды падхапіў адвечную тугу народную за лепшай доляй і воляй. Ён сваім пранікլівым пясьнярскім словам кідаў голасна народу ягоныя-ж спрадвечныя сны й думы.

І вось дзеля таго, што Купала запяяў для народу „сьмела на сьвет цэлы” тую-ж песьню-казку, пра якую ён вякамі сам даўно сьніў, — народ і зразумеў яго, пазнаў і прызнаў, зварухнуўся, мільённым рэхам адазваўся, ды пайшоў за сваім Янкаю-Дударом усей „агромністай сваёй грамадой”.

У тым, што Янка Купала падхапіў і запяяў пра скрытыя адвечныя жаданьні свайго-ж народу, — тайна й Антэевая моц ягонага прарочага слова. Таму ён стаўся песьняром-пракокам, ідэолягам і духовым правадыром нацыянальнага адраджэньня Беларусі.

Цяпер сьмела й пэўна можам сказаць: бяз Янкі Купалы й ягонай прарочай песьні беларускае нацыянальнае адраджэньне неасягнула-б тых узвышшаў, на якіх яно ёсьць сяньня. Ні нашая літаратура, ні культура, ні беларуская палітыка ды нацыянальна-вызваленчае змаганьне не здабылі-б таго размаху й ня мелі-б той пераможнай сілы, каб над імі ня лунаў прарочы дух Купалавых песьняў-заклікаў.

Перш чым быў напісаны й апавешчаны Акт 25 Сакавіка аб волі й незалежнасьці Беларускага Народу, ідэя яго гарэла, пісаная агнявымі літарамі ўва ўсёй творчасьці Янкі Купалы. Гэта ён быў сапраўдным духовым тварцом гэтага акту, а, дакладней кажачы, праз ягоныя вусны, як свайго прарока, быў ім сам гаспадар і правамоцны валадар сваёй зямлі — Беларускі Народ. Яшчэ доўга да Ўсёбеларускага кангрэсу ў Менску Купала слаў, кідаў на ўсе краі сваёй зямлі нягаснучыя віці-агні — сваё палымянае прарочае слова.

Ды доля народнага пясьняра-прарока неадменная ад долі свайго-ж народу. Ён зь ім дзеліць да дна ўсю чару жыцьця „ці з вадой жыватворчай, ці зь ядам”. Народнаму песьняру Купале была суджаная трагічная, мучаніцкая доля й яна не магла быць у дадзеных гістарычных умовах

Канец на 2 бал.)

# Саветы й нацыянальнае пытаньне

Савецкая прапаганда мае свае ўдачы. Бо вось такі заўсёды добра паінфармаваны й спрытны чалавек, як прэм'ер Індыі Нэгру бяз хістаньня праглынуў пашыранае Крамлём цьверджаньне ў справе адносінаў Саветаў да нацыянальнага пытаньня. У нядаўняй сваей прамове Нэгру выхваляў Савецкі Саюз, як „адзіную краіну", якая заняла „мудрае і ўдалае становішча ў здабываньні народаў у далёкіх замежжах" Адносячыся з пашанай да моўных суадносінаў сярод мясцовага горскага жыхарства Індыі, ён раіць індыйскім спэцыялістым вывучаць і насьлядаваць гэтае савецкае становішча.

Сутнасьць прапагаванага тут Саветамі становішча выясьняецца іхным жаданьнем паказаць, што ў Савецкім Саюзе ўсе народы маюць магчымасьць свабодна, без усякіх перашкодаў, разьвіваць сваё культурнае жыцьцё, што яны маюць роўныя правы із найбольшым народам — вялікарусамі. Тымчасам ужо пры першым позірку на апошнія падзеі ў Саветах у справах гэтага пытаньня мы пабачым, што гэты выхваляны савецкі падыход да нацыянальнага пытаньня абсалютна фальшывы. Тое што запраўды дзеіцца ў апошнія гады ў Саветах, гаворыць аб тым, што там праводзіцца прымусовая русыфікацыя: расейская мова ўведзеная ўва ўсіх школах як абавязкавы прадмет навучаньня ды расейская культура штэ раз пільней ўзвышаецца, як найбольш „перадавая", якую ўсе народы павінны шанаваць, выхваляць і старацца наследваць. Ад 1935 г. усе народы прымушаныя рэарганізаваць сваё пісьмо ў кірунку ліквідацыі лацінскага й арабскага альфабэту, раней ужыванага, ды заменяць яго кірыліцай расейскае мовы. Адначасна ўжываць расейскія словы для палітычных, тэхнічных, навуковых і эканамічных паняцьцяў.

На працягу апошніх гадоў гэтая палітыка русыфікацыі асягнула свае узвышшы. Камуністычныя верхаводы й вядучыя інтэлігенты на Украіне, Беларусі, Каўказе, у Балтыцкіх краінах і ў Цэнтральнай Азыі перажылі ізноў чыстку з прычыны іхнага „буржуазнага нацыяналізму". Гісторыя многіх народаў перарабляецца ізноў так, каб паказаць, што паняволеньне іх Расеяй было для іх багаслаўенствам ды зрабіць нацыянальных герояў, што змагаліся супраць гэтага паняволеньня, нягоднымі злачынцамі. Факты апошняе савецкае культурнае й палітычнае русыфікацыі іншых народаў ня новыя, яны ўжо практыкаваліся на працягу годаў. Бязумоўна, прэм'еру Нэгру трэба было б належна вывучыць гэтыя факты раней, чымся абдорваць сваім багаслаўенствам гэтае савецкае становішча, што зьяўляецца запярэчаньнем дэмакратычнае талеранцыі, якую Нэгру так эфэктоўна ўжо ці раз выставіў у крыху дзіўным сьвятле.

Да гэтага мы, беларусы маглі б дадаць адно: час, каб сьвет глянуў нарэшце цьвярозымі вачыма на савецкія ашуканствы. Бо даволі толькі даць тут жменьку балючых для нас фактаў, што здарыліся на ніве гэтага „вольнага" культурнага савецкага жыцьця, як забойства прэзыдэнта Беларускае Акадэміі Навук праф. Ігнатоўскага, сьмерць Янкі Купалы, вынішчэньне сотняў нашых акадэмікаў, паэтаў, пісьменьнікіў, кампазытараў, артыстых, студэнтаў і г. д., — каб пазнаць дзе праўда.

### ПРАРОК ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ

накшая. Як Беларускаму Народу, так і Купале, давялося перанясьці над сабою найгоршы зьдзек, які знае гісторыя.

І яго брутальна падтаптала пад свае ногі безаглядная чырвоная маскоўская дэспотыя, палоньнікам-катаржнікам якой із сваім народам яму суджана было быць. Ды кажны разумее сяньня глыбіню гістарычнага трагізму правадыроў народных на ўсходзе Эўропы. І таму як раскіданыя сяньня па сьвеце, так і на Бацькаўшчыне, дзеці Беларусі разумеюць трагэдыю свайго „Янкі". І ніводзін шчыры сын Беларусі ня кіне сьвятагубным каменем у свайго прарока-правадыра й мучаніка. Трагэдыя Купалы — трагэдыя Беларусі, трагэдыя беларускага народу.

Сатанічны намер Масквы — зьнішчыць Купалу, як рэвалюцыянера й прарока-правадыра свайго народу ня ўдаўся. Ён, як Шэвчэнка, астанецца зыркім сьветачам, што асьвятляць будзе шлях будучым пакаленьням у змаганьні за волю й праўду праз стагодзьдзі.

# РАДЫЕ »ВЫЗВАЛЕНЬНЕ«

Газэта „Нью-Ёрк Таймс" ад серады, 25-га чырвеня падае наступную зацемку:

„Абвешчаньне Адміралам Аланам Г. Кёркам, што новая радыёстанцыя „Радыё Вызваленьне" хутка пачынае свае перадачы на Савецкі Саюз, — добрая навіна. Добрая навіна таксама й тое, што колькі найпаважнейшых эміграцкіх арганізацыяў з Савецкага Саюзу задзіночыліся, і сталіся спонсарамі станцыі, пабудова якой ужыцьцявілася із дапамогаю Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня народаў СССР, на чале з Адм. Кёркам. Праз гэтае радыё былыя савецкія грамадзяне будуць магчы прамаўляць да сваіх братоў, што ўсьцяж яшчэ жывуць у сталінскай няволі. Што яшчэ больш цешыць у гэтай апошняй навіне, гэта тое, што яна прыракае ажыўленьне працы эміграцкіх групаў у блізкой будучыні. Зашмат працы і энэргіі было змарнавана ў мінулым на спрэчкі аб розных тонкіх дробязях дактрынальных розьніцаў між імі. Цяпер, дзеля таго, што яны пагадзіліся супольна спансараваць „Радыё Вызваленьне", — ёсьць надзея, што і намаганьні асягнуць цясьнейшае паразуменьне між імі будзе мець удачу. Асягненьне гэтымі 10-ма групамі паразуменьня ў мінулым тыдні ў Мюнхэне ў справе спансараваньня радыя, сьветчыць аб зразуменьні, што із спрэчкаў паміж імі карыстае толькі Сталін.

Можна спадзявацца, што й іншыя дэмакратычныя эміграцкія групы, апрача гэтых дзесяцёх, у хуткім часе таксама паразумеюцца."

### ЗАЯВА АДМІРАЛА КЁРКА

У сувязі із вышэй паданаю весткаю, адмірал Кёрк, які стаіць сяньня на чале Камітэту Вызваленьня Народаў СССР, падаў учора да ведама, што галоўнае ягонае заданьне — дапамагаць усім дэмакратычным групам эміграцыі, а таксама асобным эмігрантам і ўцекачом, якія ня прызнаюць камуністычнае тыраніі. Палітыка Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня мае на мэце адно — вызваленьне народаў СССР ад камуністычнае дыктатуры, не пастанаўляючы аб іхным далейшым лёсе.



# Без шпікоў і правакатараў - ані кроку

(Перасьцярога для шмат каго).

Ці ёсьць людзі сярод нашае эміграцыі (ведама, тут гутарка аб эміграцыі апошніх год, бо із г. зв. „старой" эміграцыяй справа, на жаль, шмат горшая), хто ня знаў-бы аж за добра ўсіх хітрасплеценых ці нахабных мэтадаў бальшавікоў, якіх яны ўжываюць, хочучы асягнуць сваю мэту? А разам із тым і ў польскай ці расейскай прэсе, і праз радыё розныя фірмы штодня перакальна намаўляюць людзей слаць сваім сваяком і блізкім за „зялезнай заслонай" лісты й пачкі із емінай ці вопраткай. Ведама, сэрца, кажуць, ня камень, і кажны хацеў бы дапамагчы сваім, асабліва ведаючы жахлівыя ўмовы падсавецкага жыцьця, калі чалавек цешыцца кажнаму нечакана здабытаму лішняму баханку хлеба, кажнаму фунту цукру ці пары абы як счэпленых картовых нагавіцаў. Ды гэтак сяньня склалася, што нашая дапамога блізу заўсёды ў рэшце рэштаў стаецца для нашых сваякоў у „краі", як тут гаворыцца, не дапамогаю, а магілай. Што гэта так, варта толькі ўвважна прачытаць зацемку, паданую днямі з Афінаў (Грэцыя).

З крыніцаў за „зялезнай заслонай" падаецца, што чарговы выпуск савецкае Сакрэтнае Школы Шпіянажу ў Ленінградзе мае быць у хуткай будучыні высланы за зялезную заслону, у Заходнюю Нямеччыну, Францыю, Італію, а перадусім у Задзіночаныя Штаты Амэрыкі, як „уцекачы"-эмігранты.

Савецкая Служба Бясьпекі (НКВД-МГБ) пільна зазначае імены й адрасы усіх тых асобаў, што высылаюць з Амэрыкі пачкі сваім сваяком ці сябром у Вугоршчыне, Чэхаславаччыне, Румыніі, Польшчы ды іншых падсавецкіх сяньня краінах. Гэткім чынам яны складаюць сьпісы асобаў, якія зьвязаныя сваяцтвам ці пачуцьцём сымпатыі із людзьмі, што засталіся пад бальшавікамі. Гэтыя сьпісы перасылаюцца ў шматлікія камуністычныя агенствы ў Амэрыцы і асобы, чые імёны ў іх зьмешчаныя, могуць стацца пры нагодзе, а шмат хто ўжо стаўся, ахвярамі бальшавіцкага шантажу. Гэткім ахвярам часта-густа ўжо загадвалі выпісваць ашурансы для таго ці іншага „нешчасьлівага" ўцекача (у сапраўднасьці-ж савецкага шпіка) з Эўропы, якому, быццам, цудам удалося „уцячы" з пад крывавага бальшавіцкага тэрору.

Добра паінфармаваныя колы ў Будапэшце паведамляюць, што найменш 70 процантаў такіх выпадкаў удаюцца і ўсё новыя й новыя савецкія агенты трапляюць на Амрыканскую зямлю, каб пашыраць тут сваю зрадніцкую працу.

На чале Ленінградзкае школы шпікоў стаіць савецкі палкоўнік Куцепаў, адзін з найбольш здольных, найспрытнейшых савецкіх „спэцаў" у галіне шпіянажу.

Навука ў школе трывае ня менш году. У праграму ўвайходзяць хэмія (веда аб атаме), мэханіка, рысаваньне й чырчэньне, навука аб умацаваньнях і геаграфія, вывучэньне крыніцаў найпатрабнейшых сыравінаў у сьвеце, сеткі вытворчых цэнтраў і падрабязная навука аб вытворчасьці Задзіночаных Штатаў, Канады й Паўдзённае Амэрыкі.

„Студэнты" вывучаюць таксама арганізацыйную пабудову замежных арміяў ды іхную зброю, тапаграфію, фатаграфію, радыё і г. д.

Палітычная „навука" складаецца з гісторыі камунізму ў ЗША, у саюзных із Амэрыкай гаспадарствах і ў СССР.

Вучаць таксама гутарыць і пісаць па-ангельску й гішпанску. Адну з гэтых дзьвёх моваў „вучні" павінны знаць дасканала.

Тых будучых шпікоў, якія прызначаныя для Задзіночаных Штатаў, вучаць таксама як захоўвацца на судзе і ў вязьніцы, калі-б ім давялося туды трапіць у выніку іхнае прадрыўное дзейнасьці.

Вялікая ўвага зьвяртаецца таксама на „навуку" ўцёкаў і павароту „да хаты" легальнаю (дыпляматычнаю) дарогаю, або й нелегальна, пры дапамозе падробленых пашпартоў ці іншых папераў.

У рэшце рэштаў „студэнты" вучацца, як перадаваць таёмныя весткі й паведамленьні, як весьці агітацыю й прапаганду, а нават наладжваць палітычныя забойствы.

Усе выпускнікі, зразумела, мусяць быць шчыра адданыя „Партыі і правадыру", быць добра „насабачыўшыся" ў марксіскай дыялектыцы й не баяцца найгоршых злачынстваў.

Ніхто із сумлеўнай клясавай мінуласьцяй, ніхто, што хоць раз быў пакліканы ў НКВД як абвінавачаны, або падозроны, ніхто з сяброў сем'яў, дзе былі арыштаваныя ці сасланыя, — у Ленінградзкую школу шпікоў ня прыймаецца.

Праз увесь час „навукі" ў школе ўсе вучні ўжываюць несапраўдных імёнаў і прозьвішчаў, ня маюць права зраджваць свае праўдзівыя прозьвішчы нават найлепшым сябром, а таксама гутарыць аб сваёй мінуласьці. Тайніца у ўсім, што ім загадвае савецкая Служба Бясьпекі — найпершы абавязак кажнага.

Столькі — паведамленьне з Афінаў. Дадаць да афінскага паведамленьне можна адно, — гэта, што яшчэ большая бяда пагражае самым савецкім грамадзянам, якія дастаюць лісты ці пачкі з Амэрыкі. Раней ці пазьней — усе яны зьнікаюць за цяжкімі брамамі бальшавіцкіх турмаў, вялікая частка — назаўсёды.

М. Менскі

# МАЕ УСПАМІНЫ
## *(Янка Купала)*

Я — ані крытык, ані пісьменьнік, ані публіцысты і гэтыя радкі пішу адно й на просьбу некаторых сваіх прыяцеляў, і па свайму собскаму жаданьню, як просты, звычайны чалавек, які аднак меў шчасьце быць знаёмым, а нейкі час так ці йнакш сябраваць з тым, аб якім зьбіраюся сяньня расказваць.

I.

У савецкім Менску была, а пэўна ёсьць і сяньня вуліца, што звалася Кастрычніцкай, а часьцей Акцябрскаю... У савецкім Менску з розных прычынаў грамадзяне прывыкалі „дабраахвотна" гаварыць больш парасейску.

Кажная вуліца бывае чым небудзь слаўная, ці добрым, ці благім. Славілася ў Менску і Акцябрская вуліца... Не Кастрычнікам, што прынес уладу цяперашнім савецкім гаспадаром і не „акцябрынамі" нова-народжаных савецкіх грамадзянаў, а ведамаю на ўвесь Менск лазьняю, званаю лазьняй Паплаўскіх. І хоць савецкія айцы гораду даўно „зялезнаю мятлой" вычысьцілі ўсялякіх там „собсьнікаў" і над лазьняю павесілі шыльду „Савецкая лазьня", але просты чалавек — ёсьць чалавекам і як яго не папіхаюць, а ў палітыцы ён слабы, жыве прывычкамі, дык і гэтую кастрычніцкую лазьню й дагэтуль заве „Паплаўскаю". Ведама, можна было-б і вінаваціць простага чалавека, калі-б не такая паважная рэч, як лазьня. Савецкія людзі ведаюць, аж за добра, што значыць у іхным шэрым жыцьці — лазьня. Гэта паняцьце наскрозь палітычнае. Яно можа быць і вялікім дасягненьнем савецкае ўлады, калі, скажам, ідзе вада, гарыць электрычнасьць і працуюць краны... і злою насьмешкаю й над уладай і над самым простым чалавекам, калі (а гэта бывае часьцей) няма ні вады, ні сьвятла, ні кранаў...

Сапраўдныя крытыкі могуць мне зараз-жа закінуць: чаму я столькі часу губляю на лазьню. Але я маю найлепшае апраўданьне:

Па першае: гэтая лазьня ў Менску была нейкім быццам „геаграфічным" паняцьцем. Калі вы напрыклад пыталіся, як трапіць да Янкі Купалы, дык кажны адразу-ж адказаў вам:

— Ідзеце сабе, таварышу, проста да Паплаўскае лазьні. Амаль што насупраць і будзе хата Янкі Купалы!

І гэтага было зусім досыць, таму што менскія грамадзяне ня ведалі можа нават і самога "Івана Дамінікавіча", але, няма сумліву, Паплаўскую лазьню ведалі.

Па другое, лазьня ў тыя дні, калі яна „выконвала й перавыконвала", ці проста кажучы працавала, была гэткаю рухаваю, шумліваю й сварліваю сваёй даўжэзнай „чаргой", што дамок пясьняра, які стаяў насупраць, здаваўся ў сваёй цішы й супакойнасьці нейкім прадзіўным кантрастам, што мімаволі прыцягваў да сябе ўвагу. Як быццам вы з шумлівага кірмашу траплялі ў сьвяты, супакойны змрок царквы.

Кажуць, што й нярухомыя рэчы могуць іншы раз набываць некаторыя адзнакі тых, каму яны належаць, быццам адухаўляюцца. Тое самае адчувалі тыя, хто, маючы бліжэйшыя дачыненьні з Купалаю, набліжаліся да даўгога паркану з брамкаю, што хавала ад вачэй самы дамок, дзе ён жыў. Колер паркану быў брудна-зямлісты і калі там, у хаце за плотам прадчуваўся палітычны супакой і добры настрой, дык гэты плот успрыймаўся нейк вясёла, радасна. Калі-ж, наадварот, там у хаце прадбачаўся непакой і пагрозьлівае палітычнае паветра, дык паркан гэты быў зусім „у тон" яму сваім пахмурным, злавесным выглядам, быццам папярэджваючы: „увага! праходзь і не затрымлівайся!" Для Купалы і для ягоных аднадумцаў і сяброў савецкае палітычнае паветра было як тая красуня, аб якой сьпявае „душка-тэнар" у опэры „Рыгалета":

— „Сэрца красуні
схільна да зрады
схільна да зьменаў,
як ветрык маю"...

З тою розьніцаю, што опэрная красуня зраджвала й уцякала ад вас; а савецкая улада, калі вам зраджвала, нікуды ня ўцякала, а прымушала „ўцякаць" вас, і то ўцякаць так далёка, што іншы раз і павароту адтуль ня было.

Праз увесь час свайго жыцьця пад саветамі, Янка Купала, нібы човен на ўзбураным моры, то ўзьнімаўся на хвалі, то ляцеў уніз. Бо ня трэба забывацца на тое, што ў савецкую літаратуру Купала прыйшоў як ужо ВЕДАМЫ ЗМАГАР ЗА НАЦЫЯНАЛЬНУЮ БЕЛАРУСКУЮ СПРАВУ, іншымі словамі быў тым, каго бальшавікі ахрысьцілі „буржуазнымі нацдэмамі" й каго яны так старанна выкарчоўвалі. Імя Купалы ўжывалася савецкімі валадарамі адно дзеля спэкуляцыі і былі моманты, калі Купала сядзеў у хаце, баючыся выйсьці й чакаў на „чорнага ворана". І сапраўды, усе сябры Купалы былі вынішчаныя й загінулі, або былі выкіненыя на выгнаньне. Памятую як сяньня гэткія дні... Менск быў як у вагні. Усе пахаваліся. У саюзе пісьменьнікаў — пустыня. Няма ведама адкуль зьявілася чутка, што вось, вось будуць арыштаваныя „старыя" (Купала й Колас). Чутка была гэткая ўпартая, што ёй усе верылі. Верылі і, хвалюючыся, чакалі... Аднак, мінула... Нават наадварот. неўзабаве Купала й Колас стаялі на чале дэлегацыі пісьменьнікаў на „дэкаду беларускае літаратуры" ў Маскву, дзе атрымалі найвышэйшыя адзнакі, собскія машыны (недасягальная ў Менску рэч!) і йmя Народных Паэтаў. Па Менску кружыла чутка, якую быццам расказваў у цесным коле сакратар ЦК Беларусі Панамарэнка. Ён быў у гэтым часе пакліканы ў Маскву на чарговы даклад і нечакана трапіў да самога Сталіна. Скончыўшы размовы аб справах, Сталін, быццам, запытаўся ў Панамарэнкі:

— А як у вас там чуюцца „старычкі"?

Панамарэнка спачатку не зразумеў, у чым справа і перапрасіў Сталіна. Той назваў тады прозьвішчы Купалы й Коласа. Панамарэнка зьдзівіўся яшчэ больш і ня ведаў, што адказаць, таму што і Купала й Колас трымаліся тады даслоўна на цененькай, кволай нітачцы. Сталін, пабачыўшы разгубленасьць Панамарэнкі, з усьмешкаю параіў яму не чапаць „старычкоў", а наадварот, „заапекавацца" імі й зрабіць для іх усё магчымае, каб даць ім „пачуць Сталінскую ласку". Прыехаўшы ў Менск, Панамарэнка адразу-ж перавярнуў усё. Вось як робіцца савецкая палітыка. Трэба толькі дзівіцца хітрай, папраўдзе чартоўская мэханіцы „Правадыра й Бацькі".

2.

Але... вернемся да Кастрычніцкае вуліцы. Уявім сабе ціхі летні дзень без асаблівае гарачыні. І ў паветры і ў палітыцы як быццам усё добра. З палёгкаю дыхае савецкі Менск. Вы адчыняеце брамку Купалаўскае сялібы і ўваходзіце на пяшчаны двор. Перад вамі, як бы пераразаючы ваш шлях, вырастае сьцяна з рознакаляровых пышных, прыгожых і пахучых кветак, асабліва нязвычайных, чароўных ружаў. Дзесьці каля гэтае жывое сьцяны туліцца высокая, але трошкі пахілая постаць у заношанай і зала-

# ЯНКА КУПАЛА -- ПЯСЬНЯР БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ

(Працяг)

Як роўны йдзі жыхар між роўных жы- [хароў,
Аддай на суд свае ўсе крыўды, сьлёзы, [кроў.

Як гналі пот зь цябе паны і каралі,
Як гналі проч цары із роднае зямлі

І як крываўляць раскаваныя рабы,
Як ты ўпадаеш з непасільнай барацьбы.

Як Бацькаўшчыну тваю рэжуць на [кускі,
Як гінеш з дзецьмі ты ад катняе рукі, —

Аддаці ўсё на сход, на ўсенародны сход,
Ідзі аграблены, закованы народ!

А ў вершы „Наша гаспадарка", датаваным 7.XI.18 паэта пытае:

„Чужы і свой хлеб станавіцца жорсткім [комам
І душыць кліч: ці доўга будзе нам за- [ломам
Варшава панская і царская Масква".

(У першым савецкім выданьні на месцы „царская" стаялі толькі кропкі. Можна здагадвацца, што ў арыгінале стаяла слова „хамская", бо слова „царская" ня было патрэбы выкідаць савецкаму цэнзару).

З гэтых радкоў відаць, што Янка Купала адносіўся адмоўна да расейскае рэвалюцыі. Тыя, што самі былі нявольнікамі царызму ператварыліся ў прыгнятальнікаў беларускага народу. Рэвалюцыя ня прынесла Беларусі таго, што было мэтай жыцьця Купалы — сапраўднай свабоды й незалежнасьці.

Камуністычная крытыка доўга войстра папракала Янку Купалу. Л. Бэндэ ў прадмове да зборніка вершаў паэты „Адцьвітаньне" піша ў 1930 г.

...„Будучыня Беларусі марылася паэту не як сацыялістычная Беларусь, а як дэмакратычная дзяржава беларускага народу. Ідэал будучыні Беларусі Купалы ня выходзіў з рамак буржуазна-дэмакратычнай дзяржаўнасьці у нацыянальнай афарбоўцы. Яму хацелася, каб Беларусь заняла „пачэсны пасад між народамі".

Блізу тое самае пісаў аб Янку Купале й А. І. Дзякаў — загадчык агітпропу ЦККП(б)Б ў 1932 годзе:

„Янка Купала адлюстроўваў у сваіх творах ідэалёгію дробнага таваравытворцы. І само сабой зразумела, падвойная прырода гэтае клясы не магла не пакласьці супярэчлівасьці на творы Купалы..."

І яшчэ:

„Усё гэта абумовіла тое, што Янка Купала падпаў пад уплыў беларускага буржуазнага нацыяналізму, апынуўся ў палоне буржуазных беларускіх нацыяналістаў, якія зрабілі усё магчымае, каб зацягнуць паэта варожым рэвалюцыі павуціньнем, трымаць яго ў сваіх контррэвалюцыйных лапах".

А Літаратурная энцыкляпэдыя, том 5 кажа:

„Палітычная ідэалы Купалы, аднак, ня выходзяць з рамак нацыяналізму і буржуазнага дэмакратызму нашаніўцаў... Ў творчасьці паэты пераважае вясковая абмежаванасьць. Купала супроцьстаўляе селяніна — гораду, беларуса — небеларусу, ідэалізуе патрыярхальна-фэўдальнае мінулае Беларуска-Літоўскай Русі часоў „войска Усяслава", абараняе „самабытнасьць беларускага народу" і затушоўвае „клясавую барацьбу" на Беларусі..."

...„У першых пасьлярэвалюцыйных вершах (1918) Янка Купала ўвесь у палоне ў беларускага нацыяналізму. Гэты працяглы й хваравлівы пэрыяд у творчасьці Купалы дае ў сваім выніку актыўна нацыяналістычную драму „Тутэйшыя" (1922)..."

...„Творчасьць Купалы ...або выражае ідэалёгію часткі дробнай буржуазіі і гарадзкой інтэлігенцыі, або адлюстроўвае буржуазна-кулацкія нацыяналістычныя настроі..."

Можна было-б падаць больш прыкладаў гэткай крытыкі, але й з гэтых ясна відаць, што ў ёй больш ненавісьці, чымся праўды. Ды й ці дзіва? Янка Купала, шчыры пясьняр беларускага народу ня мог мець прыхільнасьці бальшавіцкае крытыкі.

У 1931 годзе, калі на Беларусі шалеў жудасны тэрор НКВД, Янка Купала прабаваў адабраць сабе жыцьцё. Гэта быў мужны пратэст супраць гвалту над лепшымі сынамі беларускага народу. У гэты трагічны спосаб Янка Купала бараніў беларускі народ, якога „крывавілі" „раскаваныя рабы".

Тэрар не спынаецца. Вымаганьні да пісьменьнікаў і да Янкі Купалы ў першую чаргу прыймаюць усьцяж вайстрэйшыя формы. І Янка Купала піша нарэшце колькі пра-савецкіх вершаў. Яны слабыя. У іх няма так характарнай для творчасьці Янкі Купалы вобразнасьці ці глыбокага пачуцьця. Відаць, што яны былі пісаныя пад ціскам неабходнасьці. І іх вельмі мала, раўнуючы да багатай творчасьці Янкі Купалы з папярэдніх год. У бальшыні гэтых вершаў зусім няма праграмнай пра-савецкай думкі, адно трохі савецкай слоўнай тэрміналёгіі, уплеценай у верш.

28-га чырвеня 1942 году Янка Купала паміраe ў Маскве нечаканай, таямнічай сьмерцяй. Толькі на трэці дзень у маскоўскіх газэтах зьмяшчаецца вестка аб гэтым, пададзеная Саўнаркомам, Вярхоўным Саветам, і ЦККП(б) Беларусі. У паведамленьнях не падаецца ані дата, ні прычына сьмерці Янкі Купалы. Цяжка зразумець і само спазьненьне гэтага паведамленьня. Адразу відаць жаданьне схаваць ад беларускага народу і ўсяго сьвету сапраўдныя прычыны нечаканае сьмерці Народнага Паэты Беларусі.

Яшчэ ў апошнія гады жыцьця Купалы камуністычная крытыка зьмяніла тон у дачыненьні да яго й начала ўсё часьцей маляваць ягоны вобраз чырвонымі фарбамі. Пасьля-ж сьмерці песьняра ягоная постаць проста заліваецца чырвонаю паводкай. Камуністыя забыліся ўсяго, што гаварылі аб Купале раней. Каб выкарыстаць вялікую папулярнасьць паэты для свае справы, камуністычная прапаганда імкнецца сяньня давесьці, быццам Янка Купала быў сьвядомым прыхільнікам камуністычнай дыктатуры, што, аднак, нікога, нат і самых камуністых, не пераканае.

Аўг. Мазалькоў піша кніжку аб творчасьці Янкі Купалы, дзе апранае песьняра беларускага народу ў чырвоны каптан маскоўскага крою. За гэтую кніжку ён атрымлівае нават сталінскую прэмію.

Але ўсё гэта дарма. Беларускі народ добра знае й Янку Купалу й ягоную творчасьць. Ён памятае яго, як свайго народнага песьняра, і ведае, што прароцтвам гучаць сяньня ягоныя словы:

„Не зрабіць нікому гэткай дамавіны,
І ня вырыць ямы гэтакай глыбіны,
Каб у іх з вачэй мне Беларусі-Маці,
Як людзей хаваюць, гэтак пахаваці.

А хоць дасьць мне доля ў дамавіне [месца, —
Устане цень з зямлі мой, на крыж [абапрэцца,
І ў той бок глядзеці будзе век нязводна,
Дзе ляжаць загоны Беларусі роднай.

**І. Л.**

### ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

**Рэдакцыя газэты „Беларус" зьвяртаецца да ўсіх сваіх чытачоў з просьбаю неадкладна заладзіць справу падпіскі на газэту. Абавязкам кажнага сябры нашага беларускага грамадзтва на эміграцыі, што атрымлівае й чытае „Беларуса" — пакрыць сваю задоўжанасьць перад газэтай у якнайхутчэйшым часе, каб „Беларус" мог і надалей выходзіць сваечасова, без даўжэйшых перапынкаў. Верым, што кажны, каму ляжыць на сэрцы справа роднае прэсы, адгукнецца на гэты наш заклік. Грошы трэба слаць на адрыс:**

Byelorussian - American Ass'n, Inc. 405 Belmont Ave, Brooklyn 7 New York.

**Рэдакцыя газэты „Беларус".**

# З Беларускага Жыцьця

### ТРЫ СЬВЯТЫ

Царква сьв. Еўфрасіньні-Прадславы, Апаякункі Беларусі, якая заіснавала ў Ню Брансьвіку як прыход Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, сьвяткавала 22 чырвеня аж тры сьвяты: першыя ўгодкі існаваньня прыходу, 10-ую гадавіну сьмерці вялікага беларускага паэты й змагара за незалежнасьць Бацькаўшчыны — Янкі Купалы й дзень свае Апякункі, сьв. Еўфрасіньні Полацкае. Ці-ж дзіва, што на ўрачыстасьці ў Ню-Брансьвік прыбыў з Ню-Ерку Яго Прэасьвяшчэнства Япіскап Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Васіль, увесь царкоўны хор і шмат гасьцей з бліжэйшых і далейшых ваколіцаў.

Сьвяткаваньне пачалося ўрачыстай Божай службай, якую адправіў Уладыка Васіль у саслужэньні настаяцеля царквы сьв. Еўфрасіньні ў Ню-Брансьвіку пратаярэя С. Войтанкі й пратаярэя Хв. Данілюка з Ню-Ерку. У часе Божае службы вельмі прыгожа сьпяваў хор пад кіраўніцтвам маладзенькае Галіны Ганчарэнка. Да харыстых, што прыехалі з Ню-Ерку, далучылася ладная грамадка мясцовых сьпявакоў, сабралася разам каля 40 чалавек і галасы гучэлі суладна й магутна, дадаючы прыгаства і ўрачыстасьці сьвяткаваньню. Прысутныя на Божай службе госьці й беларусы з Саўт-Рывэр і Ню-Брансьвіку маліліся шчыра, з глыбокім пачуцьцём, усьцешаныя й прыгожым сьпяваньнем і ўрачыстасьцяй архірэйскае службы.

Зараз пасьля абедні адбылася акадэмія, прысьвечаная 10-ым угодкам трагічнае сьмерці Янкі Купалы. Вельмі зьмястоўны й добра паданы слухачом рэфэрат, прысьвечаны памяці Прарока нашага адраджэньня, прачытаў сп. Кабушка. Ягоныя словы, ягонае шчырае захапленьне творчасьцяй і заслугамі Я. Купалы, а таксама сум і абурэньне у дачыненьні да крывавых бальшавіцкіх панявольнікаў, што прычыніліся да ягонае трагічнае сьмерці, — перадаліся ўсёй залі. Гледачы, а было іх каля соткі, — у глыбокай ціщыні праслухалі рэфэрат, узнагарадзіўшы дакладчыка шчырымі воплескамі.

Пасьля рэфэрату беларускія дзяўчаткі прыгожа прадэклямавалі колькі вершаў Янкі Купалы.

Сьвяткаваньне скончылася супольным абедам. Накарміўшы удосыць дух, госьці з тым большым апэтытам узяліся за падмацаваньне цела. А тады, бо беларус, як сказаў ужо М. Багдановіч, ня можа жыць бяз песьні, сьпяваючы „і на вясельлях, і на хрэсьбінах, і ў труну кладучы", — паплылі над сталамі нашыя адвечныя беларускія песьні. З кароткімі прамовамі ў часе абеду выступалі Старшыня Аддзелу БАЗА сп. Ф. Родзька, сп. Стома, сп. Тулейка і Уладыка Васіль, які ў прыгожых словах прыраўнаў беларускі асяродак у Ню-Брансьвіку да дрэўца, перасаджанага зь беларускае глебы ў далёкую чужую краіну.

— Дрэўца гэтае, казаў Уладыка, прыжылося на Амэрыканскай зямлі, і далей расьце й разьвіваецца, ня губляючы свайго прыгаства й зяленасьці.

І Уладыка шчыра дзякаваў настаяцелю царквы ў Ню-Брансьвіку, ягонай ахвярнай сям'і, старшыні Аддзелу БАЗА сп. Родзьку і ўсім прысутным — тым, чый дагляд і праца прычыніліся й прычыняюцца якраз да таго, што дрэўца зь беларускае зямлі не засохла, зяленіцца, а хутка мо' й закрасуе і тут на чужыне. Багаславіўшы ўсіх працягваць працу на шчасьце й славу Радзімы-Беларусі, — Уладыка кончыў гэтым урачысты дзень трох сьвятаў і удзельнікі з радасьцяй, узьнятым духам і ўзмоцненымі сіламі раз'ехаліся да свае шэрае, штодзённае працы, якая, дарма што гэта не заўсёды й відаць, узрашчвае ўсё-ж кволыя, ды ўсьцяж зялёныя дрэўцы — сьвятыя ідэалы, прывезеныя з хаты аж за моры ў сэрцах выгнаньнікаў.

### ВЕСТКІ З КЛІЎЛЭНДУ

У мінулым месяцы Беларусы Кліўлэнду ўшанавалі колькі ўгодкаў, зьвязаных із жыцьцём і творчасьцяй беларускіх паэтаў. Былі адзначаныя 50-ыя ўгодкі ад дня нарадзінаў вялікага беларускага паэты Язэпа Пушчы (нар. 7. 5. 02). У вялікай залі Беларускага Народнага Дому сп. А. Каханоўскі прачытаў рэфэрат аб ягоным жыцьцёвым і творчым шляху. Рэфэрат даў слухачом абраз жыцьця, а на тэкстах ягоных вершаў — творчы шлях Пушчы, мастака слова й патрыёты, што падзяліў трагічны лёс свайго паняволенага народу.

Таксама была наладжаная акадэмія, прысьвечаная 35-ым угодкам сьмерці Максіма Багдановіча, з рэфэратам і дэклямацыяй вершаў паэты.

Згуртаваньне Беларускіх Жанчынаў у Кліўлэндзе не забылася і аб сваім дні — Сьвяце Маці. Пасьля Службы Божае ў гонар матак быў адслужаны ў царкве БАПЦ у Кліўлэндзе адмысловы малебен, у часе якога былі высьвечаныя кветкі, падараваныя пазьней усім маткам — беларускам. Папаўдні ў Беларускім Народным Доме старшыня Жаночага Згуртаваньня сп. Чэрнік прачытала рэфэрат аб ролі маткі ў жыцьці народу. Пасьля рэфэрату было прадэклямавана колькі вершаў, прысьвечаных беларускай маці.

Побач з гэтымі творчымі сьвяткаваньнямі, Кліўлэнд перажыў нядаўна і вельмі сумнае здарэньне: паховіны шчырага сябры Аддзелу Задзіночаньня, сьв. памяці Пётры Еўстаф'ева, які памёр ад сардэчнага прыпадку. Кліўлэндзкая калёнія зь вялікім жалем разьвіталася із сваім сябрам. Труна із целам нябожчыка, упрыгожаная паводкаю вянкоў і кветак ад беларускіх арганізацыяў і прыватных асобаў была выстаўленая сьпярша ў Пахавальным Доме, а ў суботу 31-га траўня перанесеная ў сваю царкву, дзе была адпраўленая абедня й адпяваньне. Паніхіды па нябожчыку служылі беларускія сьвятары айцы Якіменка й Лічко. Пахавалі сьв. памяці Пётру Еўстаф'ева на гарадзкім могільніку Кліўлэнду. Пасьля паховінаў беларускім звычаем быў дадзены памінальны абед. У разьвітальных прамовах а. Еўфімія і а. Аляксандра й Старшыні Камітэту А. Каханоўскага была адданая апошняя пашана дарагому нябожчыку.

### ДУМКА НА ЧАСЕ

Усе мы ведаем і чытаем газэту „Бацькаўшчына". Гэта — найпаважнейшая сяньня на эміграцыі беларуская газэта. Дарма, што тыя ці іншыя недагляды ці хібы, кажны бярэ яе ў рукі із прыемнасьцяй. Газэта друкуе ад часу да часу адмысловую старонку для дзяцей. Каб больш людзей, асабліва настаўнікаў, дасылала ў гэтую „Старонку" апавяданьні, казачкі ці вершы, датарнаваныя да дзіцячага веку, — яна магла-б разрасьціся ў паважны дапаможнік пры навуцы нашых дзяцей роднае мовы, асабліва бяручы на ўвагу пякучую нястачу ў нас дзіцячае й школьнае літаратуры. І тое, што змушаныя вучыцца сяньня ў чужых школах на мовах усяго сьвету нашыя дзеці стаяць пад пагрозай зусім забыцца роднае мовы й роднага краю — памерці духова для нашае беларускае Будучыні. — прымушае нас паважна й глыбака падумаць аб гэтай справе. Праўда, ўся нашая эміграцыя перагружаная цяжкай заработкавай працай, аднак, было-б неабходна, каб нашыя настаўнікі ў першую чаргу знайшлі калі крыху часу і падасталі што-колечы ў дзіцячую старонку „Бацькаўшчыны".

Ды сяньня хацелася-б успомніць тут не аб гэтай, хай так важнай, справе, а аб яшчэ адным пачынаньні газэты. Побач із старонкаю для дзяцей і літаратурнаю, „Бацькаўшчына" мяркуе даць на сваіх балонках месца й для жаночага кутка. І сапраўды, — роля нашае жанчыны на эміграцыі вельмі паважная. Усе нашыя тут культурныя пачынаньні, паказы, канцэрты, хоры і г. л. мы заўдзячваем у вялікай меры гарачаму ўдзелу нашых жанчынаў, а асабліва моладзі — дзяўчатаў, у беларускім культурным жыцьці. Мужчыны, хлапцы, па шчырасьці, йдуть толькі за іхным прыкладам, душа-ж усяго — яны. І таму такая „Жаночая Старонка" магла-б належна асьветліць ролю беларускае жанчыны, ейную працу ў жыцьці нашае эміграцыі. Было-б толькі крыху добрае волі й настойлівасьці, каб дасылаць у „Старонку" зацемкі ці нарысы аб працы нашых жанчынаў, аб іхных дасягненьнях і плянах. Увесь матар'ял, а таксама фота-здымкі з жаночых выступленьняў, фатаграфіі ўзораў беларускіх паясоў, дываноў, вышыўкаў, якія хто вывяз із сабой на эміграцыю ці зрабіў ужо тут, і г. д. трэба слаць на адрыс газэты „Бацькаўшчына". Чым хутчэй нашыя жанчыны з усіх куткоў эміграцыі адгукнуцца на гэтую добрую думку, — тым хутчэй „Жаночая Старонка" пабачыць сьвет, усебакова насьвятляючы працу й жыцьцё нашае жанчыны — беларускі на цяжкім эмігранцкім шляху.

### ПАВІНШАВАНЬНЕ

Рэдакцыя газэты „Беларус" перасылае сваім паважаным чытачом Кацярыне й Станіславу Др. Грынкевічам шчырае павіншаваньне з прычыны народжаньня новае маленькае беларускі — Рагнеды-Галены і жадае ёй вырасьці на славу Радзімы Беларусі, на ўзор свае вялікае пра-пра-прабабкі Княгіні Рагнеды.

### ДАСТОЙНЫ ГОСЬЦЬ У НЯМЕЧЧЫНЕ

Прэзыдэнт БНР Мікола Абрамчык, што, як сам зазначыў, „за апошнія шэсьць год — пяць год быў усьцяж у дарозе", неведаў нядаўна Нямеччыну, прысьвяціўшы найбольш часу Мюнхэну.

На чыгуначнай станцыі ў Мюнхэне Дастойнага Гасьця сустрэлі ўсе радныя нямецкага Сэктару Рады БНР, старшыня Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Нямеччыне Уладзімер Бертнік, галоўны рэдактар газэты „Бацькаўшчына" Язэп Каранеўскі, старшыня Цэнтралі Беларускіх Акадэміцкіх Арганізацыяў на Чужыне др. Барыс Рагуля, Старшыня мясцовага Беларускага Камітэту ў Шляйсгайме пад Мюнхэнам Іван Колас і вялікая група беларусаў ня толькі з Мюнхэну, але й з далейшых мясцовасьцяў. Для ўсіх іх наведзіны сп. Прэзыдэнта сталіся сапраўдным сьвятам, што ўнесла крыху сьвятла й радасьці ў невясёлае жыцьцё беларусаў, якія волю лёсу засталіся ў Нямеччыне, жывучы й далей у нямецкіх бараках, на нішчымных лягерных харчох, аб якіх нашая эміграцыя ў ЗША даўно забылася.

Адпачыўшы, сп. Прэзыдэнт правёў нараду із сябрамі Сэктару Рады БНР у Нямеччыне, а таксама і зь іншымі беларускімі дзеячамі. З асабліва вялікай цікавасьцяй сабраныя слухалі інфармацыі сп. Прэзыдэнта аб ягоных намаганьнях перад палітычнымі дзейнікамі заходня-дэмакратычнага сьвету належна асьветліць ім беларускую нацыянальна-вызвольную справу. Шмат дзе гэтыя намаганьні ўжо маюць вялікія ўдачы. Палітычны сьвет Заходу ведае сяньня непараўнальна больш аб Беларусі й беларускай справе, чымся яшчэ колькі год таму і штораз часьцей зь вялікім разуменьнем ставіцца да нашае нацыянальнае справы.

Назаўтрае, сп. Прэзыдэнт наведаў найбольшую на сяньня беларускую групу ў лягеры Шляйсгайме пад Мюнхэнам. Тут нашыя беларусы сустрэлі сп. Прэзыдэнта хлебам і сольлю й кветкамі. Ад імя мясцовага Беларускага Камітэту прывітаў сп. Прэзыдэнта ягоны старшыня Іван Колас, а таксама старшыня мясцовага Украінскага Камітэту сп. Максімовіч.

Пасьля прывітаньняў усе беларусы лягеру, а таксама госьці зь іншых беларускіх асяродзьзяў сабраліся ў люгерний залі, дзе сп. Прэзыдэнт зрабіў вялікі й цікавы даклад аб беларускім вызвольным пытаньні у ўмовах сучаснага міжнароднага палажэньня, а таксама расказаў прысутным аб жыцьці й працы іхных колішніх блізкіх сяброў — сяньняшняй беларускай эміграцыі ў ЗША, дзе сп. Прэзыдэнт пражыў усю мінулую зіму.

У апошнім дню свайго гасьцяваньня ў Мюнхэне, сп. Прэзыдэнт прыняў шмат прадстаўнікоў іншых паняволеных сяньня бальшавікамі нацыянальнасьцяў, абмяркаваўшы зь імі справы далейшае супольнае палітычнае дзейнасьці.

### КРЫЖАСЛОЎЕ

Улажыў У. К.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | ■ | 6 | 7 | | 8 | 9 |
| 10 | | ■ | 11 | | 12 | | | ■ | 13 | |
| | ■ | 14 | | | | | | 15 | ■ | |
| 16 | 17 | | ■ | 18 | | | ■ | 19 | 20 | |
| 21 | | | 22 | ■ | | ■ | 23 | | | |
| ■ | 24 | | | | ■ | 25 | | | | ■ |
| 26 | | | | ■ | 27 | ■ | 28 | | | 29 |
| 30 | | | ■ | 31 | | 32 | ■ | 33 | | |
| | ■ | 34 | 35 | | | | 36 | | ■ | |
| 37 | 38 | ■ | 39 | | | | | ■ | 40 | |
| 41 | | | | | ■ | 42 | | | | |

**Гарызантальна:**

1. Пышны, мастацкі будынак. 6. Беларускі танец. 10. Атрута па расейску. 11. Камуністычны правадыр. 13. Ініцыялы ведамага бел. палітычнага дзеяча на эміграцыі. 14. Гародніна. 16. Рака ў Расеі. 18. Займеньнік. 19. Вокліч. 21. Кітайскі пралетары. 23. Рака ў Азыі. 24. Пітво. 25. Частка хаты. 26. Дыпляматычны ліст. 28. Пахучая лекавая расьціна. 30. Займеньнік. 31. Прылада селяніна (бяз першае літары). 33. Жаночае імя. 34. Заморскае ўладаньне. 37. Рака ў Фінляндыі. 39. Музычны тэрмін. 40. Займеньнік. 41. Пара дня. 42. Прыслоўе.

**Вэртыкальна:**

1. Расейская мядзяная манэта. 2. Прыйменьнік. 4. Жаночае імя. 5. Частка цела. 6. Горад на Беларусі. 7. Займеньнік. 8. Электра-тэхнічная адзінка. 9. Хвароба. 12. Жаночае імя. 14. Дзяржаўны муж. 15. Эўрапейская дзяржава. 17. Білет. 20. Каштоўны камень. 22. Дрэва. 28. Гатунак папугаю. 26. Часта. 27. Дрэва. 29. Дрэва. 31. Мужчынскае сьпешчанае імя. 32. Пазытыўны полюс. 35. Люблю (па лаціне). 36. Жаночае імя. 38. Ангельскае азначаньне часу. 40. Спажываю.